№ 23 (3866)
25 сакавіка 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах
Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

***Сёння і заўтра яшчэ можна падпісацца на «Народную Волю", з тым каб атрымліваць газету з 1 красавіка. Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!***

ВЫБАРЫ



# Беларусы зноў здзівілі свет...

Ёсць такі анекдот. Маладая жонка нарадзіла мужу прыгожага, здаровага, даношанага хлопчыка. І абураецца:

— Чаму ты не рады?

— Ды неяк у школе на біялогіі нас вучылі, што, каб вынасіць дзіцё, трэба дзевяць месяцаў, а мы ж з табой пазнаёміліся толькі паўгода таму...

— Вось бачыш, які ты разумны, колькі ўсяго ведаеш! А сынок — дык і ўвогуле вундэркіндам будзе: звычайным дзецям дзевяць месяцаў трэба, а наш дык і за шэсць "саспеў".

Са сваімі выбарамі мы для ўсяго свету і ёсць самыя "разумныя". Бо навукова даказана, што калі дзяржава не створана па дэмакратычным узоры, то:

— выбаршчыкі не бягуць галасаваць датэрмінова, такія выпадкі хутчэй выключэнне, чым правіла;

— нават тэарэтычна не можа быць яўкі выбаршчыкаў больш, чым 60—65 працэнтаў;

— не могуць быць адразу ў першым туры абраны дэпутаты па ўсіх (ці нават амаль усіх) акругах.

Але тое, чаго, згодна з навукай, быць у прынцыпе не можа, у Беларусі адбываецца ў кожную выбарчую кампанію.

Вось і зараз афіцыйныя вынікі выбараў у мясцовыя Саветы такія:

— выбары былі чэсныя, свабодныя і дэмакратычныя;

— яўка выбаршчыкаў па краіне склала 77,3 працэнта; у Гродзенскай вобласці — ажно 80,3 працэнта;

— цікавасць да мясцовых выбараў была нават большай, чым да прэзідэнцкіх, і людзі проста беглі галасаваць датэрмінова: гэты паказчык склаў 32 працэнты, чаго раней ніколі не было;

— усе 1328 мясцовых Саветаў сфарміраваны і могуць прыступаць да работы;

— адразу, з першага заходу, абраны 18 тысяч 809 дэпутатаў; толькі ў трох акругах дэпутаты не былі абраны.

Ну, ці не "вундэркінды"?!

ВІНШУЕМ!

## Маленькая, але перамога

Шмат сваіх кандыдатаў выстаўлялі на гэтых выбарах прадстаўнікі аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя". Але не тое, што ў Мінскі гарсавет, а нават у райсаветы не прайшоў ні адзін з кандыдатаў. "Прарыў" здзейсніў толькі адзін чалавек — **Валерый Білібука** з вёскі Кабакі Бярозаўскага раёна.

Паплечнік Валерыя **Павел Севярынец** лічыць, што бярозаўскія ўлады папросту пабаяліся народнага бунту:

— Падчас сялянскага хвалявання, калі была эпідэмія афрыканскай чумы свіней, Валерый стаяў за людзей. І "Народная Воля", і многія незалежныя СМІ расказвалі пра тыя падзеі, калі сяляне прагналі дэлегацыю, якая мела намер знішчыць пагалоўе свіней у вёсцы. Дык нагадаю, што Валерый Білібука быў у тых падзеях і завадатарам, і непасрэдным удзельнікам. Зараз на выбарах улады, натуральна, пабаяліся пайсці на грубую фальсіфікацыю. Бо сказаць, што Валерый не набраў галасоў, — гэта азначала выклікаць новы стыхійны бунт з непажаданымі для ўлады наступствамі.

**Дар'я СОЛТАН.**

## Прабіліся...

Партыя левых "Справядлівы свет" (былая Партыя камуністаў беларуская) правяла трох дэпутатаў у сельскія Саветы Аршанскага раёна.

На выбарах перамаглі: **Анатоль Гоцман, Юрый Курганаў** і **Жанна Франкова.** Пра гэта паведаміў намеснік старшыні партыі **Валерый Ухналёў.**

Усяго партыя вылучала 93 кандыдатаў у мясцовыя Саветы Беларусі розных узроўняў.

## Хто ўмее бачыць праз сцены?

У Брэсце назіральніка пасадзілі не ў зале галасавання, а ў суседнім пакоі. Прычым старшыня выбарчай камісіі настойваў на тым, што і ў такіх умовах назіраць за ходам галасавання магчыма.

Пра гэта распавёў каардынатар на выбарах ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Уладзімір Вуек:**

*"На выбарчым участку №10 па выбарах у Брэсцкі гарадскі і Брэсцкі абласны Саветы наш назіральнік не мог назіраць за выбарамі, таму што старшыня выбарчай камісіі вызначыў месца для назірання ў суседнім пакоі. Мы склалі скаргу на імя старшыні выбарчай камісіі. Паколькі на парушэнне не адрэагавалі, мы склалі скаргу ў Цэнтральную выбарчую камісію".* Парушэнне, як сцвярджае актывіст, істотнае, якое дае падставу не прызнаць вынікі галасавання як мінімум на гэтым участку. Але ці прызнае ЦВК, што назіральнік — усё ж такі чалавек і ён не можа бачыць праз сцены?

## Не дажылі...

Паводле звестак Цэнтрвыбаркама, паўторныя выбары пройдуць у сямі акругах. У чатырох з 18 тысяч 816 выбарчых акруг выбары не праводзіліся, у трох балатаваліся па адным кандыдаце, якія ў выніку так і не набралі неабходнай колькасці галасоў выбаршчыкаў.

— На жаль, два кандыдаты ў дэпутаты на дзвюх безальтэрнатыўных акругах памерлі раней, чым за 20 дзён да выбараў, — распавёў "Народнай Волі" сакратар ЦВК **Мікалай ЛАЗАВІК**. — Калі б гэта адбылося больш як за 20 дзён, то можна было б вылучаць іншых кандыдатаў. Дарэчы, памерлы ў Чашніцкім раёне быў старшынёй сельскага Савета, але ішоў па дзвюх акругах — вылучаўся і ў сельскі, і ў раённы Савет. А яшчэ адзін кандыдат — дырэктар Слонімскай прадзільнай фабрыкі — зняў сваю кандыдатуру, бо прыцягнуты да крымінальнай адказнасці. Таму ў гэтых акругах будзе паўторнае галасаванне.

**— Яшчэ ў трох акругах балатаваліся кандыдаты, якія не набралі неабходнай колькасці галасоў...**

— Так, не сабралі 50 працэнтаў галасоў, а значыць, там выбары таксама не адбыліся. Пры гэтым кандыдаты не патрапілі ў сельскія Саветы — гэта прыкладна 100—150 выбаршчыкаў. Калі чалавек дзесьці праштрафіўся перад народам, то яму і выказалі недавер.

**— Хто гэтыя людзі, якія не набралі галасоў?**

— У Давыд-Гарадку, напрыклад, не абралі дзеючага старшыню Савета, які балатаваўся на другі тэрмін. Такая ж сітуацыя і ў Івацэвіцкім раёне (Целяханскі сельскі Савет), дзе не атрымаў падтрымкі старшыня Савета.

**Алесь СІВЫ.**

АКЦЫЯ

## За Беларусь! За Украіну!

### *Мінскія ўлады дазволілі шэсце і мітынг на Дзень Волі*

Мінскія ўлады далі дазвол на правядзенне мітынгу і шэсця ў Дзень Волі 25 сакавіка.

Як паведаміў адзін з арганізатараў мерапрыемства, намеснік старшыні Руху "За Свабоду" **Алесь Лагвінец,** збор удзельнікаў адбудзецца сёння ў 18.30 каля Акадэміі навук, а затым шэсце накіруецца да плошчы Бангалор:

— Сама працэдура атрымання дазволу была даволі прыніжальнай, — расказаў Алесь Лагвінец. — Улады запрасілі пракурора, запрасілі міліцыянераў, здымалі гэта на камеру і папярэджвалі пра ўсялякія санкцыі, калі не будзе выконвацца так званае дзеючае заканадаўства. Але ў той жа час дадзены дазвол на выкарыстанне сімволікі БНФ. Таксама можна выкарыстоўваць украінскія сцягі.

Заяву на акцыю падалі прадстаўнікі руху "За Свабоду", Партыі БНФ, Беларускай Сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), АГП, ствараемай Партыі БХД і Рады беларускай інтэлігенцыі. Удзельнікі акцыі ў Дзень Волі плануюць выказаць сваю салідарнасць з украінскім народам.

МАНІТОРЫНГ

## На 98% участкаў назіральнікаў не дапусцілі да кантролю за падлікам галасоў

*Такую лічбу агучыў на прэс-канферэнцыі ў панядзелак старшыня Беларускага Хельсінкскага камітэта* ***Алег Гулак.***

Ён адзначыў, што гэтыя выбары сталі працягам адпрацаванай практыкі парушэнняў і маніпуляцый з боку ўлад.

Па-першае, праваабаронцы зноў прад'яўляюць прэтэнзіі да таго, як праходзіла датэрміновае галасаванне. Паводле слоў Алега Гулака, ужо з першага дня назіральнікі адзначалі разрыў паміж афіцыйнымі дадзенымі і дадзенымі назіральнікаў, якія тычыліся яўкі выбаршчыкаў. Канчатковае разыходжанне паміж дадзенымі назіральнікаў і афіцыйнымі лічбамі падліку галасоў склала каля 20%. Іншымі словамі, незалежнае назіранне сведчыць, што ўдзел у датэрміновым галасаванні прыняў не кожны трэці выбаршчык, а толькі... кожны дзясяты.

Паводле сцвярджэнняў А.Гулака, 98% назіральнікаў адзначылі, што ўлады перашкаджалі ім у працэсе назірання, а 93% паведамілі, што іх размясцілі на адлегласці, з якой не было відаць, што пазначана ў бюлетэнях і як іх лічаць.

Да таго, як праходзіла выбарчая кампанія, у праваабаронцаў таксама шмат прэтэнзій. Так, **Валянцін Стэфановіч** адзначыў, што гэта першыя выбары, якія адбыліся пасля змен у выбарчае заканадаўства. Аднак, паводле ягоных слоў, выбарчы працэс не стаў больш эфектыўным, а ў некаторых сферах сітуацыя нават пагоршылася.

*"Урэшце ўлады скаціліся проста да арыштаў, як гэта было з пікетам АГП, у выніку якога некалькі чалавек апынуліся за кратамі",* — заявіў Стэфановіч.

Выснова такая: выбарчы працэс прайшоў з сур'ёзнымі парушэннямі прынцыпаў дэмакратычных выбараў, замацаваных у міжнародных дамовах і беларускім заканадаўстве. Непразрыстасць падліку галасоў, на погляд праваабаронцаў, не дае падстаў сцвярджаць, што афіцыйныя вынікі падліку сапраўды адлюстроўваюць волевыяўленне беларускіх грамадзян.

# Няўдалы штурм

У Мінскі гарсавет ніхто з апазіцыянераў не прайшоў. Як, дарэчы, і ў Саветы іншых буйных гарадоў.

Вось што сказаў у сувязі з гэтым **Сяргей КАЛЯКІН**, старшыня Партыі левых "Справядлівы свет":

— Па тых акругах, дзе былі мае назіральнікі, у мяне, згодна з іх звесткамі, было другое месца. Давалі ад 14 да 20 працэнтаў. З вялікім адрывам ад мяне — кандыдат ад улады — дырэктар школы №53. Такія лічбы ва ўсялякім разе "напісалі". Я ўпэўнены, што лічбы ў выніковых пратаколах проста выдуманыя, таму няма сэнсу іх аналізаваць. Хаця гэтыя выбары насамрэч былі даволі важнымі. Мы гэтую кампанію выкарыстоўвалі па максімуме, каб мець магчымасць размаўляць з людзьмі, і бачылі актыўную рэакцыю. Значна больш, чым раней, людзі задумваюцца, як жыць далей. Праўда, яны не ведаюць, што менавіта трэба рабіць, але гэта ўжо не так важна. Важна тое, што яны званілі і званілі па тых нумарах, якія былі ў нашых улётках. Для параўнання: раней гэта быў, можа, адзін які званок, а цяпер нам увесь час тэлефанавалі, задавалі пытанні, крытыкавалі, дзяліліся сваімі думкамі. Народ стаў цікавіцца тым, што ты можаш паабяцаць і што ты можаш зрабіць. І відавочна, што сваю будучыню наш народ ужо не звязвае з тымі людзьмі, якія цяпер ва ўладзе.

У той жа час трэба прызнаць, што і з апазіцыяй яны таксама яе не звязваюць. Таму для мяне ёсць важная выснова з гэтай кампаніі: апазіцыі трэба палепшыць камунікацыі з людзьмі. А што да кампаніі, то, як мы і думалі, галасы ніхто па-сапраўднаму не лічыць. І так будзе да той пары, пакуль мы не прыцягнем вялікую колькасць людзей не з апазіцыі (бо апазіцыі гэта не па сілах) для кантролю за выбарамі. Асэнсаванне павінна яшчэ адбыцца. І людзі прыйдуць да таго, што трэба не назіраць за тым, што і як адбываецца ў краіне, а самім удзельнічаць у тым, каб змены адбыліся. І гэта абавязкова спраўдзіцца.

**Любоў ЛУНЁВА.**

## «Сплавілі» ў Мінск

У Гомелі на адзінае вакантнае месца ў Палаце прадстаўнікоў абрана загадчыца тэрапеўтычнага аддзялення Гомельскай гарадской паліклінікі №1 **Алена Астапюк.**

Нагадаем, што 23 сакавіка, у дзень галасавання на выбарах у мясцовыя Саветы, праходзілі паўторныя выбары дэпутата Палаты прадстаўнікоў па Гомельскай-Навабеліцкай акрузе №36.

Алена Астапюк — беспартыйная. Разам з ёй балатаваліся сябра Беларускай партыі левых "Справядлівы свет" **Віктар Хоміч** і намеснік дырэктара ДЮСШ алімпійскага рэзерву №7 **Мікалай Шкірэеў.** Сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Уладзімір Няпомняшчых** і настаўніца замежнай мовы сярэдняй школы №2 **Вольга Судакова** свае кандыдатуры перад выбарамі знялі. Не былі зарэгістраваны кандыдатамі **Галіна Краўчанка** (рух "За Свабоду") і **Андрэй Цянюта** (гомельская кааліцыя "Наша альтэрнатыва").

У выніку дэпутатам названа Алена Астапюк — за яе, калі верыць пратаколам, прагаласавалі ажно 76,02% выбаршчыкаў. Пасля такога выніку само сабой павісла ў паветры пытанне: няўжо спадарыня Астапюк такі дрэнны доктар, што гамяльчане амаль аднагалосна захацелі ад яе пазбавіцца?

СКАЗАНО!

*Александр ЛУКАШЕНКО:*

# «Мы никогда не прерывали и не прерываем отношений с Украиной...»

***В воскресенье на избирательном участке А.Лукашенко дал обширное интервью журналистам. Вот его позиция по Украине.***



## Политики во всем виноваты

...Скажу вам откровенно: все, что произошло и происходит в Украине, мне категорически противно и не нравится. По многим причинам. В силу личностных причин — вы знаете, что это не чужая для меня да и для вас страна, это треть нашего славянского мира. Поэтому я очень болезненно воспринимаю те процессы, которые там происходят.

И когда я говорю о том, что категорически не приемлю то, что произошло и происходит в Украине, говорю это как обычный человек, как гражданин. О человеке-политике скажу позже.

Давайте посмотрим, что произошло в Украине. По-разному это называют — революционный переворот, революция, вооруженный захват власти, неконституционное свержение власти, короче — неконституционный процесс. Может это нравиться мне, вам, людям, посвященным в политику? Конечно, нет. Это ненормально, когда таким образом свергают законную власть и устанавливают новую власть.

Что касается пришедших к власти людей (мы пока о причинах не говорим), там есть разные люди: есть профессионалы, есть просто крикуны, как и всегда, везде, особенно если власть формируется в результате подобных уличных событий и переворотов.

Поэтому у меня отношение к ним разное.

Приведу одну параллель. Я запросил определенные материалы, чтобы не выглядеть дилетантом или человеком, который в свое время поддался советской пропаганде. Некоторые из так называемых политиков, которые сегодня около власти и у власти в Украине, называют себя наследниками Бандеры, УНА-УНСО, Украинской повстанческой армии, организаций украинских националистов, которые действовали до войны. Оказывается, организации украинских националистов, а затем боевой отряд УПА, повстанческая армия, созданы еще в 1929 году на Украинском Полесье. Затем они распространили свое влияние на все Полесье, и к концу войны уже боевиков этих организаций у нас действовало до 15 тысяч. Это уже приличная армия, и не одна. Как они себя вели — вы тоже знаете. Приведу только один пример — Хатынь. Да, в советские времена не принято было обсуждать, исследовать: кто там, как? Но потом-то мы разобрались, что грязными делами и не только в Хатыни занимались представители вот этих повстанцев, которые были в свое время сформированы в Украине. Они сожгли на территории Беларуси немало наших людей, в том числе Хатынь. И не только: наверное, Украине тоже хватило. Но больше всего они бесчинствовали на территории Беларуси. И ликвидировали эти банды только в 1950-х годах, убрали последних, которые действовали на Полесье уже как одиночки.

Они уничтожили тысячи наших людей! Скажите, если люди, которые сегодня во власти в Украине, ассоциируют себя с этими нелюдями, то какое у нас, белорусов, должно быть к этому отношение, да и не только у белорусов? Соответствующее.

Но я сказал, что во власти в Украине очень разные люди. Там есть профессионалы, нормальные люди, бизнесмены. К одним я отношусь хорошо, к другим — не очень. За ними стоят группы людей. Как бы я к ним ни относился, хорошо или плохо, с ними надо выстраивать отношения. Если они, конечно, будут работать во власти в Украине, если останутся политиками. Это определят будущие президентские и парламентские выборы в Украине. Вот кого народ на выборах поддержит, с тем мы и будем выстраивать отношения.

Почему? Потому что это объективно. Украина — наша соседка. Дружественная, даже в личном плане не чужая для меня земля, и моя Украина, и республика. Поэтому мы будем с ними выстраивать отношения. Я неоднократно говорил: товарооборот между нашими странами достиг 7 миллиардов долларов. Это серьезный уровень.

И, конечно, история очень близкая. Я привел отдельные примеры о нелюдях. Но абсолютное большинство украинского народа — наши люди. Они такие же, как мы.

Мне пришлось еще пацаном, в 20-летнем возрасте, когда закончил свой первый вуз, служить в пограничных войсках, в войсках Комитета государственной безопасности, на западной границе. Центр нашего округа был в Киеве. Последний год службы, около того, я служил в отряде инструктором политического отдела. И в силу специфики своей работы (я вел всю комсомольскую работу) мне пришлось очень часто бывать в своем округе на западной границе, во Львовском пограничном отряде. У нас был Брестский, Львовский, Одесский, по-моему, дальше Ленинградский, Прибалтийские отряды, я там часто бывал. И вот это было мое первое соприкосновение с так называемыми "западэнцами", как их называют в Украине.

Знаете, я никогда не скажу, что это люди, которые отличаются от нас. Я с ними и после сталкивался, когда работал в сельском хозяйстве, они приезжали к нам работать. Это очень трудолюбивые, очень порядочные, добрые люди.

Политики виноваты в том, что разделили Украину. Может быть, и не разделили, может, это в их головах, в средствах массовой информации они выплескивают, что Украина поделена на Западную и Восточную. И там, и там прекрасные люди. Уродов, простите меня, отщепенцев, плохих людей и у нас, и в Украине, и в России, а на Западе еще больше хватает. В семье не без урода. Но в основном это такой трудолюбивый народ, что нам просто и не снилось.

Разделили, я еще раз подчеркиваю, Украину на Западную и Восточную только политики...

## Не нужно было давать повод...

...То есть украинские власти допустили очень много ошибок и таким образом, если уж откровенно говорить, подставились. Они подставились. Неважно, специально или, скорее всего, не продумав: революция идет, — и начали косить налево и направо. Пошло мародерство, мордобой на улице, нет порядка, передел собственности. И этим пользуются недобросовестные богатые олигархи и так далее. Это мне может нравиться в Украине? Конечно, нет.

Вы, конечно, сейчас у меня спросите о Крыме, о том, что нарушена территориальная целостность или там еще что-то. Скажите, вам может нравиться, если нарушается целостность и независимость какого-то государства? Ответ однозначен: нет. То же самое и мне как гражданину. Но кто эту ситуацию создал? Многие говорят, что Россия только и ждала, чтобы оттяпать Крым, присоединить и прочее. Так не подставляйтесь, вы же политики, не давайте повода для этого! Россия вмешалась, когда увидела, что душат даже не русский, а славянский мир, там же и к белорусам было соответствующее отношение, когда нависла угроза над Крымом, который когда-то принадлежал России, где из двух с лишним миллионов полтора миллиона русских и вообще около двух, которые такой политики не приемлют. Никто же не скажет, что Россия вот просто так взяла ружье и люди пошли туда и оттяпали Крым. Никто это не скажет! Причину и как минимум повод дали эти власти. Это нормально? Это ненормально!

*(Окончание на 2-й стр.)*

# «Мы никогда не прерывали и не прерываем отношений с Украиной...»

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Ну и самое главное. Везде приводят какие-то параллели, говорят, что "с этой властью мы не будем сотрудничать, разговаривать". Я однозначно занимал определенную жесткую позицию: то, что произошло в Украине в плане переворота, — это что, новинка на постсоветском пространстве? У нас живет один из таких людей, которого в результате революции свергли, и сегодня в его кресле сидит человек, с которым и я, и другие, мы спокойно общаемся за столом переговоров, принимаем решения. Так чем та ситуация (я имею в виду Кыргызстан) отличается от этой? Мы обречены жить вместе. И мы будем, хотим мы этого или порой нет, выстраивать отношения с тем правительством, которое будет определено народом Украины.

Я говорил о том, что мы никогда не прерывали и не прерываем отношений с Украиной. Да, мы можем оценивать происходящее по-своему. Но важнее — народы, важнее — государство. Лукашенки, Яценюки, Тягнибоки, Кличко и другие — они приходят и уходят. Остаются народы и государства. И мы не должны создать такую ситуацию, чтобы народы впредь не могли нормально жить, работать и сотрудничать.

## Федерация — это очень опасно для государства

...Украина должна остаться государством! Федерация — это "пианино", на котором будут играть, с одной стороны, одни силы, с другой стороны, другие силы, в том числе внешние. Это навсегда дестабилизирует обстановку. Навсегда!

Украина должна остаться единой, неделимой, целостной, внеблоковым государством. Потому что это будет очень чувствительно для нас и для России, если, допустим, завтра высадятся в Украине натовские войска. Этого мы вообще допустить не можем. Это наш интерес, глобальный интерес! Поэтому надо договориться. Дальше в Украину никто не имеет права лезть. Надо помочь Украине разобраться с этими проблемами.

Федерация — это очень опасно для государства. Это дальнейшая война, дальнейшее внутреннее противостояние, которое обязательно может вылиться, пример тому Крым, во внешнее противостояние и драку.

Поэтому ни в коем случае этого допустить нельзя!

Что можно предпринять для объединения Украины? Украине сегодня надо помочь. Надо провести нормальные выборы. Я не верю, что могут пройти нормальные президентские выборы в ситуации, когда действует несколько силовых групп и подразделений. Чтобы вы знали: у каждого крупного политика там группа вооруженных боевиков от 150 до 1000 человек. Давно вооруженных! И, если еще подбросить в эту пороховую смесь искру, обязательно взорвется вся Украина. И уже будет жарко всем: и нам, и россиянам, и Западу! То, что в Крыму произошло, это цветочки, а будет намного хуже и страшнее... Поэтому надо стабилизировать обстановку.

## Признавай не признавай — от этого ничего не изменится

...Что касается признания, непризнания. Крым не является независимым государством, как та же Осетия, Абхазия и так далее. Крым — сегодня часть территории Российской Федерации. Можно признавать это, не признавать, но от этого ничего не изменится. Поэтому мы свою точку зрения определили, мы ее высказали. Говорят, что там такая точка зрения, вроде и тех не обидеть, и этих не обидеть. А мы никого не собираемся обижать. Нам это не надо. Это, во-первых.

Во-вторых, от нас никто и не требует: давайте признавайте Крым, поддерживайте россиян там или не признавайте, не поддерживайте, выступайте против России. Я вам честно говорю, от меня и от наших провластных структур, Министерства иностранных дел никто этого не требует. Поэтому признаем или не признаем, думаю, ситуация будет развиваться де-факто. Будет ли Крым признаваться как регион Российской Федерации, это уже не важно. Россию ведь все признают. Поэтому от нас этого никто не требует, мы в эти дебри абсолютно не влазим, а нравится или нет, я вам только что сказал. Плохо, что пришлось, в том числе Российской Федерации, принимать подобные меры.

Но если вы у меня спросите: вы в этой ситуации где? Знаете, в силу исторического прошлого, в силу того, что мы один народ, в силу того, что мы создаем единый проект, реализовываем Союзное государство, что мы связаны соглашениями с Российской Федерацией, мы будем с Российской Федерацией. И надо прекратить всякие спекуляции. Мы не направляем свою внешнюю, внутреннюю политику, военную политику против НАТО, против кого бы то ни было. Мы будем проводить взвешенную политику. Если встанет вопрос, мы будем с Россией. Я об этом сказал и Владимиру Владимировичу Путину в нашем последнем разговоре, что вы можете не переживать, мы всегда будем с Российской Федерацией.

Почему? Опять давайте возьмем параллели. Разве Ирак американцы, натовцы разбомбили законно? Незаконно. Какую позицию заняли союзники США и НАТО? Даже Грузия, Украина — не натовское государство — послали туда своих военнослужащих. Они железно поддерживали незаконную акцию. Что произошло в Египте, Тунисе, затем в Ливии? Что происходит в Сирии? И западный мир весь един. Они понимают, что они действуют там незаконно, прежде всего американцы, но они вместе. Почему? Они связаны договоренностями, соглашениями.

В таком случае почему мы должны быть против России? Мы с ней вместе, мы связаны и так далее.

## «Запад — это такая профанация, ни на что не способные люди...»

...И вообще, скажу вам откровенно, Запад — это такая профанация, ни на что не способные люди. Сколько было пыли: да мы тут... Я, честно говоря, бояться уже начал, хоть бы до войны не дошло. Ну и что? Двадцать человек не пустят в Европу. Тех, кто вообще никогда не ездил в Европу, а часть из них, которая по своим служебным функциональным обязанностям не должна, не имеет права туда ехать. Вот это Запад.

Сколько было обещаний: мы никогда на Беларусь не будем давить, не будем травить, вводить экономические санкции. Против нас они ввели не только санкции. После выборов под санкциями двести с лишним человек, в том числе Президент Беларуси. Обещали все это снять. Где оно? Почему нас давят до сих пор? Сравните санкции против Беларуси и санкции против России (кстати, журналисты — молодцы, заметили). Ну страшно им, страшно. Россия — не Беларусь, поэтому начинают там вихлять, крутить, вертеть, чтобы лицо сохранить.

Ни на что они не способны, и с ними дело иметь — надо десять раз подумать. Они могут тебя обмануть, и это со мной было уже не один раз. А потом, чтобы лицо сохранить, начинают требовать — давай демократизируй, девальвируй, выборы проводи, как надо, политзаключенных выпускай. Я говорю: "Покажите статью, по которой мы осудили политзаключенных, есть вообще такая статья?" Предъявляем, за что осуждены. Более того, соверши такие преступления у них, последствия были бы еще жестче. Нет, это же Запад...

В этом тоже одна из причин, когда я начинаю думать, как же нам вести, выстраивать внешнюю политику. Я исхожу в том числе и из этого.

## Создается плохой прецедент

...Мы будем с нашими братскими народами Украины, России, другими народами. Мы не будем создавать проблем для соседей. Но мы твердо будем держать руку на пульсе и реагировать на ту ситуацию, которая происходит внутри наших границ.

Что касается волны самоопределений, знаете, у многих-многих сейчас зачесались руки, и они начинают чесать их не там, где надо, как говорил когда-то классик Виктор Степанович Черномырдин. Поэтому я не исключаю, что соответствующая постановка вопроса будет.

Крым опасен не тем, вот я бы Западу сказал, что он в состав России вошел. Важны прецеденты. Запад уже назвал Россию причиной разрушения наших соглашений в Будапеште по гарантиям ядерной безопасности. Этот позорный документ мне пришлось подписывать в присутствии Премьер-министра Великобритании, Президента Соединенных Штатов Америки, Клинтон тогда был, и Бориса Ельцина. Когда у нас великие свядомыя вывели без всяких предварительных условий, бесплатно отдали ядерное оружие, самое современное. И тогда Украина и Казахстан это сделали. Тогда три государства — Россия, США и Великобритания — гарантировали нам безопасность экономическую, политическую, военную, территориальную целостность и прочее.

Опасно, что уже некоторые государства отказались от этих договоренностей. Украина заявила, что выходит из данного соглашения. Тем самым развязываются руки, особенно пороговым государствам, которые вот-вот готовы произвести ядерное оружие. И последствия могут быть еще более ужасными. Вот в этом создается плохой прецедент. Очень плохо, что начинают думать, особенно средние и малые государства, что они себя, свою территориальную целостность не смогут защитить. Очень опасно, если начнется волна самоопределений: ну что ж, если можно выносить на референдум, решать вопросы, давайте будем выносить и решать. Например, Венеция заявила о своей независимости. Иными словами, это уже происходит, и в этом есть определенная опасность.

Поэтому это очень-очень серьезный вопрос. Но его, я думаю, сегодня можно только гипотетически обсуждать, а время покажет, что произойдет.

**ТЕМ ВРЕМЕНЕМ**

## *Украина отозвала посла из Беларуси*

*Посла Украины в Беларуси **Михаила Ежеля** вызвали в Киев для консультаций из-за заявлений Лукашенко.*

Министерство иностранных дел Украины вызвало посла Украины в Беларуси Михаила Ежеля для консультаций в связи с позицией белорусского руководства по Крыму.

*"В связи с заявлениями президента Беларуси Александра Лукашенко, сделанными 23 марта, МИД Украины вызвало посла Украины в Республике Беларусь для консультаций и направило белорусской стороне соответствующую ноту, в которой отмечается, что такие высказывания президента Беларуси идут вразрез с общепризнанными нормами международного права, позицией большинства стран мира, которые осудили действия России по аннексии Крыма",* — сообщил на брифинге в понедельник директор департамента информационной политики МИД **Евгений Перебийнис.**

**ОТ РЕДАКЦИИ**

***Высказывания А.Лукашенко по Украине не остались незамеченными и в других странах. Но об этом — в следующем номере "Народной Воли".***

**ПРА ШТО ГАВОРАЦЬ...**

# Мясніковіча ў адстаўку?

Аляксандр Лукашэнка ў чарговы раз заявіў, што не выключае магчымую змену ўрада на чале з прэм'ер-міністрам **Міхаілам Мясніковічам.** З яго слоў, гэта здарыцца, калі да 1 красавіка 2014 года не будуць выкананы ключавыя эканамічныя паказчыкі. Па словах Лукашэнкі, на ролю прэм'ер-міністра могуць прэтэндаваць 35—40 чалавек. *"Прэм'ер-міністры з ніадкуль не бяруцца, яны недзе навідавоку, і вы гэтых палітыкаў бачыце",* — заявіў ён 23 сакавіка журналістам.

Наколькі рэальна могуць спраўдзіцца пагрозы Лукашэнкі? Толькі ў мінулым годзе ён чатыры разы рабіў аналагічныя заявы. Прычым у больш жорсткай форме. У снежні 2013-га заявіў, што цяперашні склад урада дапрацуе да канца года, а звальняць тых, хто не выканаў даведзеных паказчыкаў, ён будзе цягам першага квартала 2014 года. "*Усе пытанні — і арганізацыйныя, і кадравыя — будуць вырашаны максімум у межах першага квартала будучага года эвалюцыйна"*, — канстатаваў тады А.Лукашэнка.

Але, як кажуць, з вялікага грому малы дождж. Міхаіл Мясніковіч як узначальваў урад, так і ўзначальвае. Эксперты сцвярджаюць, што і зараз няма ніякіх падстаў, каб Міхаіл Мясніковіч пазбавіўся партфеля прэм'ер-міністра.

— Калі па выніках першага квартала будзе дадзена аб'ектыўная ацэнка работы ўрада, то і прэм'ер утрымаецца ў сваім крэсле, і асноўны касцяк Саўміна кардынальна не зменіцца, — лічыць аналітык даследчай групы BusinessForecast.by **Аляксандр МУХА.** — Я думаю, наадварот, бліжэйшыя некалькі месяцаў урад будзе працаваць у ранейшым складзе. Усё ж нейкую дзеяздольнасць яны дэманструюць. Пад дзеяздольнасцю я маю на ўвазе тое, што, нягледзячы на ўсе ўнутраныя і знешнія фактары, эканамічная сітуацыя ў краіне, сітуацыя на валютным рынку знаходзяцца пад кантролем. Хаця, безумоўна, ёсць негатыўныя тэндэнцыі: гэта і рост складскіх запасаў, і павелічэнне знешняй запазычанасці нерэзідэнтаў перад беларускімі прадпрыемствамі. Але ўсё роўна цяпер праводзіцца дастаткова ўзважаная эканамічная палітыка з улікам сённяшніх рэалій: няма спроб штучна падняць унутраны попыт, стварыць рызыкі для фінансавай сістэмы. Усе разумеюць, што трэба прайсці гэты этап.

Акрамя таго, калі вы ўважліва слухалі Аляксандра Лукашэнку, то ён абмовіўся, што цяпер вельмі неспрыяльная знешняя кан'юнктура. Рэзкае пагаршэнне эканамічнай і палітычнай сітуацыі ва Украіне можа прывесці да зніжэння аб'ёмаў знешняга гандлю паміж Беларуссю і Украінай. Дэвальвацыя расійскага рубля, казахскага тэнге — гэта таксама будзе адбівацца на нашай эканоміцы. Пры чым тут Мясніковіч? Што, ён абваліў нацыянальную валюту Расіі, Украіны, Казахстана?

Таму маё меркаванне: пры ўсіх недахопах цяперашні склад урада на бліжэйшы час трэба захаваць. А 35—40 кандыдатаў... Скажу так: у Беларусі ёсць таленавітыя кіраўнікі, якія маглі б заняць крэсла прэм'ер-міністра. Але, на мой погляд, зараз гэтага не трэба рабіць.

Яшчэ адзін незалежны эксперт — палітолаг, старэйшы аналітык Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў **Дзяніс МЕЛЬЯНЦОЎ**, таксама лічыць, што адстаўкі Мясніковіча ў бліжэйшы час не будзе. Але крыху па іншай прычыне.

— Яшчэ раней я прагназаваў, што на гэты ўрад, на прэм'ер-міністра Мясніковіча навесяць усе няспраўджаныя планы і нявыкананыя задачы і адправяць у адстаўку, — выказвае сваё меркаванне Дзяніс Мельянцоў. — Але гэтага не адбылося. А зараз, мяркую, Мясніковіч тым больш застанецца ў крэсле прэм'ера. Лукашэнка не хоча дэстабілізаваць сітуацыю ў краіне напярэдадні чэмпіянату свету па хакеі. Трэба, каб усё выглядала спакойна і стабільна. Але я цалкам дапускаю, што напрыканцы года адстаўка ўрада можа адбыцца. Тым больш што нельга выключыць і такі сцэнарый: улады вырашаць правесці прэзідэнцкія выбары ў канцы 2014 года. Гэта выглядае лагічна на фоне таго, што адбываецца ва Украіне, і дадае больш рэйтынгу Лукашэнку. А калі адбываюцца выбары прэзідэнта, то мяняецца і ўрад.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

**SOS!**

## *За тыдзень у Беларусі спайсам атруціліся чатыры падлеткі*

*Пра гэтую навалу мы ўжо пісалі, аб ёй ужо адкрыта б'юць у званы прадстаўнікі міліцыі і медыкі, але яна не адступае.*

За тыдзень яшчэ ў чатырох гарадах Беларусі — Магілёве, Бабруйску, Маладзечне і Салігорску — маладыя людзі ад 13 да 17 гадоў патрапілі ў бальніцу ў цяжкім стане пасля ўжывання спайсу. Адна пацярпелая знаходзіцца ў коме, паведамляе МУС.

Прычым гэта дзеці з добрых сем'яў, якія займаліся спортам, таварыскія і пазітыўныя людзі.

МУС нагадвае, што курыльным сумесям ў Беларусі аб'яўлена вайна. Яны не толькі шкодныя — яны небяспечныя.

**АД ДУШЫ...**

## *Хачу падтрымаць украінцаў*

Я пенсіянер, мне 80 гадоў. Хачу падтрымаць намаганні ўрада Украіны абараніць цэласнасць і незалежнасць краіны. Дзеля гэтага гатоў штомесячна пералічваць на спецыяльны рахунак суму ў эквіваленце 10 долараў са сваёй невялічкай пенсіі.

Хтосьці можа сказаць, што гэта піяр. Не, яшчэ раз не! Таму надрукуйце, калі ласка, мой ліст і рэквізіты такога банкаўскага рахунку.

Жыве незалежная Украіна!

Не — пуцінскаму аншлюсу!

**З павагай да мужнасці народа Украіны —**

**Э.Я.НІКІФАРАЎ, пенсіянер.**

*Мінск.*

## Ад рэдакцыі

Паважаны спадар Нікіфараў! Адказваем на вашу просьбу і публікуем дабрачынныя рахункі для дапамогі народу Украіны ў гэты няпросты для яго час. Інфармацыю друкуем у тым выглядзе, у якім яна з'явілася ў інтэрнэце.

**Благотворительные счета для помощи пострадавшим на Майдане и семьям погибших**

Получатель: Благотворительный фонд "Фонд громади Приірпіння",

ЕГРПОУ №34780212, р/с 2600102377538 в ПАО "КРЕДО-БАНК" г.Киева

МФО 325365. Назначение платежа: Благотворительное пожертвование на программу помощи семьям погибших на Майдане.

Благотворительный счет поддержки украинской армии и семей военных:

Получатель: Министерство обороны Украины

Код ЕГРПОУ: 00034022;

Банк: Государственная казначейская служба Украины, город Киев

Код банка МФО: 820172;

Реестрационные счета:

31254307218611 — материально-техническое обеспечение;

31257304218611 — медицинское обеспечение.

**СПЕЦИАЛЬНЫЙ РЕПОРТАЖ**

# Революция не закончилась...

*Майдан стоит четыре месяца. Отстранив от власти одну коррумпированную группу, народ Украины выдвинул требование — глубинные реформы государственной власти.*

*Что сейчас происходит на Майдане? Собственный корреспондент в Украине **Александр Цынкевич** провел минувшие выходные на главном революционном плацдарме Киева.*

## Майдан — мемориальный комплекс

Киев живет обычной размеренной жизнью. Дети ходят в школы и детские сады, магазины и учреждения работают в обычном режиме. Только люди стали меньше улыбаться. И военкоматы работают в достаточно напряженном режиме. Украина в ожидании полномасштабной войны с Россией. Но паники нет.

...На самом Майдане и на подступах к нему мало что изменилось, разве что стало больше баррикад и они еще более укрепились. С одной стороны, Майдан похож на народный укрепрайон, а с другой — он постепенно превращается в мемориал. Установлены памятные кресты и памятники из брусчатки. Нескончаемым потоком сюда идут люди, чтобы почтить память погибших и возложить цветы. Для желающих проводятся экскурсии, туристам рассказывают и показывают, как была организована уже ставшая историей оборона Майдана. Среди экспонатов экипировка воинов самообороны, пули, патроны, остатки гранат и других спецсредств, которые применяла власть, два искореженных водомета, самодельные народные минометы, стреляющие огневой смесью, приготовленные к употреблению "коктейли Молотова". Предприимчивые люди по всему Крещатику и Майдану организовали торговлю сувенирами дней активного противостояния и обороны.

Разговариваю с молодым киевлянином Павлом. Он представился гидом. *"Майдан в ближайшее время расходиться не собирается,* — уверенно говорит он. — *Нет у народа уверенности, что нынешняя власть собирается кардинальным образом что-то менять. Люди умирали на Майдане не за то, чтобы убрать из чиновничьих кресел одних и посадить туда других. Народ хочет конкретных изменений, а не новых-старых лиц на хлебных местах".*

## Мы — мирные люди...

На самом Майдане обстановка спокойная. Я обошел все баррикады в поисках мифических "бандеровцев", о которых с пеной у рта кричат российские телеведущие и президент России Путин. Не нашел ни одного. За два дня не встретил ни одного человека в маске, с оружием, даже примитивной бейсбольной биты в руках ни у кого не было. Зато у здания городской администрации на ставшем знаменитым на весь мир и выкрашенном в цвета украинского флага пианино, сменяя друг друга, играли молодые дарования.

Обратил внимание, что со многих палаток исчезла партийная атрибутика. Обитатели палаток рассказывают: *"Наелись сказок, которыми нас кормили партийные лидеры. Надоели пустые разговоры. Нет доверия к ним!"* Действительно, в самые критические моменты, в период с 18 по 20 февраля, подавляющее большинство оппозиционных избранников на Майдане так и не появились. А в критическую ночь практически непрерывного штурма с 18 на 19 февраля вообще никого из партийных лидеров на баррикадах не было. Поэтому сейчас многие ветераны Майдана выходят из политических партий, покидают общественные организации, в которые были записаны во время противостояния. Собираются в ближайшие дни создавать свою собственную организацию, но название пока еще не придумали.

В воскресенье во время моей беседы с защитниками баррикад на Майдане стали собираться люди. Оказалось, что они пришли на очередное "Народное Вече". Собралось около 20 тысяч человек. Со сцены к народу обратились руководитель СНБО Андрей Парубий, глава СБУ Валентин Наливайченко, и.о. министра иностранных дел Андрей Дешица, другие представители Кабинета министров Украины и общественные деятели. Основная тема выступлений — обсуждение российской интервенции в Украину. Высокие чины рассказали о тех мерах, которые предпринимаются для защиты Отечества от оккупантов. Но особого доверия к их словам Майдан не испытывает. Выступающих приветствовали достаточно прохладно. Более или менее эмоционально встретили только одного народного трибуна — экс-главу МВД Юрия Луценко. "*Назначение на должности в госвласть по партийным квотам бессмысленно, а в силовом блоке — недопустимо, тем более в военное время,* — заявил с трибуны Луценко. — *Нам нужны не фамилии, а план для реформ, команда для реформ и "евроремонта"!"*

## ...Но наш бронепоезд стоит на запасном пути

Много говорилось с трибуны и о поддержке украинской армии в Крыму, о том, что украинские военные в Крыму — герои. Но Майдан в основной массе так не считает. Разговариваю с седовласым, но достаточно подтянутым мужчиной. Узнаю, что на Майдане он уже четыре месяца. В самые критические моменты оставался в строю. Зовут Николай, он из Ровно, отставной офицер.

— *Какие они герои?* — высказывает он свое мнение. — *Герои — это те, кто умирает за свободу своей страны, а не сдает врагу личное оружие.*

Показывает на фотографии погибших молодых ребят, которые жили с ним в этой палатке:

— *Вот они — герои! Без оружия отстаивали свободу украинского народа, не жалея своей жизни. А то (пауза) — предатели!*

Я пытаюсь возразить:

— Украинские военные считают, что их бросили в Крыму и не отдали им конкретных приказов из Киева.

Николай парирует:

— *Это все отговорки. Просто офицеры не хотят брать на себя ответственность ни там, в Крыму, ни здесь, в Киеве. В каждой воинской части у командира в сейфе есть секретные пакеты, которые необходимо вскрыть в том или ином случае и действовать, согласно предписанию. Практически никто этого не сделал. За месяц управления страной команды Юлии Тимошенко результата нет. Вернее есть, но он отрицательный. Мы потеряли Крым, а 20 с лишним тысяч военнослужащих с техникой и вооружением оказались в окружении оккупантов. И сейчас будет создана комиссия, которая в первую очередь рассмотрит действия власти в этот период, чтобы выяснить, что это было: предательство, халатность или некомпетентность? И, надеюсь, виновные понесут за это ответственность.*

— Ну, если власть не компетентна, а армия воевать не хочет, тогда надо сдаваться? — замечаю я.

— *Время разговоров кончилось*, — категоричен Николай. — *Сейчас патриотически настроенные офицеры собираются создать в каждой области отряды народного ополчения. В первую очередь будут задействованы офицеры, прошедшие "горячие точки". А их у нас достаточно. Мы выделили для себя два основных направления работы: первое — все желающие защищать свою страну от врага пройдут ускоренное обучение по организации и ведению партизанской войны непосредственно по месту жительства. Второе — из наиболее подготовленных в физическом и боевом плане бойцов будут сформированы воинские подразделения, которые станут основой новой украинской армии. И если власть не выдаст народу оружие для защиты своей страны, то мы сами возьмем его!*



В Украине среди населения сейчас действительно большой патриотический подъем. Резко возросли антипутинские настроения в обществе. По данным опроса, 77% процентов украинцев не довольны действиями Путина относительно Украины. В стране резко возросло — до 70% — количество сторонников вхождения в военно-политический блок НАТО, а за вступление в Евросоюз выступает еще больше жителей страны. Не дожидаясь действий новых властей, в селах Украины уже формируются партизанские отряды на случай оккупации. Народ уже сейчас требует от власти легализации владения оружием, соответствующих законов. И похоже, если власть и армия не готовы защищать свою Родину, то украинский народ готов. Майдан показал, что у этого народа есть воля и бесстрашие при отстаивании своей свободы и независимости.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
25 САКАВІКА 2014 г.

КОММУНАЛЬНЫЙ ВОПРОС

# В ЖЭСе о европейской жизни не слышали?

Кому-то опять стало плохо в подъезде. Лестничную клетку первого этажа и пол лифта покрыла зловонная жижа. На стихийном собрании жильцов было решено: это все наделали жильцы, недавно переехавшие в наш дом...

Старушка, живущая подо мной и по любому поводу тарабанящая молотком по батарее, пошла еще дальше: "Это заговор против меня! Я же инвалид! Им нужна моя квартира!"

Увы, "недавно переехавшие" свою вину не признали. Их вообще не было в городе в тот день, когда произошло очередное ЧП. Встал вопрос: кто будет убирать подъезд? Девятиэтажный дом, отрезанный от лифта, гудел недовольством.

— Пусть ЖЭС убирает! Мы им за это платим, в конце концов! Сколько можно это терпеть! — горячилась учительница с первого этажа, интеллигентно прикрывшая жижу картонкой.

По телефону справочной службы ЖЭС-116 мне подтвердили: уборка внутридомовой территории включена в стоимость коммунальных услуг. В феврале 2014 года тариф на "техническое обслуживание" (а именно эта графа жировки подразумевает мытье полов в подъезде) для однокомнатной квартиры составил 19.980 рублей. А вот график уборки, как мне объяснили, необходимо уточнять у мастеров, чей телефон холодно молчал.

На третий день жижа, кажется, начала разлагаться. Смрад в подъезде стоял такой, что жители дома закрывали нос рукой и старались дышать через рот. Учительница смела засохшие остатки "чужого ужина" на лестничный пролет. Теперь, приходя домой, первым делом я шел в ванную и оттирал обувь. Убирать в подъезде никто и не думал. И мы, кажется, уже свыклись со странным соседством.

На шестой день эпопеи я зашел в подъезд и ахнул: пол на первом этаже был вымыт. Лифт чарующе пах едкими химикатами. Но дальше первого этажа волшебник, убирающий наш подъезд, не двинулся. И на том спасибо.

Удивительно, но я ни в чем не виню ЖЭС-116. По молодости, после какого-то бурного отмечания чьего-то там дня рождения мне тоже стало плохо в подъезде. Но сразу после этого я взял в руки тряпку, ведро с разведенным порошком и отдраил всю лестничную клетку. Потому что жизнь в центре Европы — это когда ты или люди, с которыми ты живешь, несут ответственность за свои действия. По-другому Европа, увы, не строится. И ЖЭС-116 к этому не имеет никакого отношения.

**Вадим МИЛЮЩЕНКО.**

РЭЗАНАНС

# Травы, травы, травы... Дзе вы?

Паважаная рэдакцыя! Прачытаў у "Народнай Волі" за 18 сакавіка артыкул **"Загубим почву — загубим плодородие земли, основу жизни"** і вырашыў адгукнуцца. Так, матэрыял грунтоўны, і я падпісваюся пад кожным словам, але, на жаль, гэта нічога не змяніць у нашай сельскай гаспадарцы. Чаму? Таму што ў артыкуле паказаны ў асноўным тэхналагічны аспект. А каб быў поспех, трэба цалкам змяніць усю сістэму кіравання, і не толькі аграпрамысловым комплексам, а ўсёй эканомікай! Павінен быць гаспадар на зямлі. А дакладней — уласнік. А не карыстальнік. Змяніць шыльду "калгас" на "СПК" — гэта не вырашэнне праблемы.

Паколькі лічу сябе чалавекам дасведчаным у сельскай гаспадарцы, то дазвольце і мне ўставіць свой пятак у абмеркаванне артыкула. Не ўмешваючыся ў тэхналагічныя пытанні, хацелася б агаліць карані праблемы.

Шаноўныя аўтары, я 40 гадоў у гэтай галіне, з якіх амаль 30 быў старшынёй калгаса "Дрыбінскі". І мне як кіраўніку трэба было займацца не толькі раслінаводствам, але і жывёлагадоўляй. Прызнаюся, я фанатычна захацеў стаць мільянерам і, паверце, стаў ім. Даказаў, што мы не горшыя за капіталістаў: на трэці год майго старшынства вылезлі з безграшоўя і атрымалі 1,2 мільёна рублёў чыстага прыбытку (на той час гэта была велізарная сума!).

Галоўныя грошы давала жывёлагадоўля, а прадукцыйнасць пагалоўя, як вядома, залежыць у першую чаргу ад кармоў. Найперш прааналізавалі, з чаго складаецца іх сабекошт. Самымі таннымі і паўнавартаснымі аказаліся аднагадовыя і шматгадовыя травы — выпасы, зялёныя кармы, сена, сянаж і сілас. Затым ужо ішлі кукуруза, збожжа, бульба і самыя дарагія — кармавыя буракі. Першымі выкінуў з пасяўнога плана караняплоды. Чаго мне гэта каштавала — не буду казаць. Потым скараціў плошчы бульбы на корм, нават свіней было танней карміць канцэнтратамі. А вось што наконт траў, то мы нават новую тэхналогію распрацавалі. Сеялі канюшыну чырвоную ў чыстым выглядзе, калі-нікалі і цімафееўкі дабаўлялі трошку, для страхоўкі, пад віка-аўсяную сумесь. Тукі (акрамя калію і невялічкай дозы фосфару) не ўносілі ў глебу. А калі і ўносілі, то адзін раз пад аднагадовыя. І што мелі? Аднагадовыя давалі 200—250 і болей цэнтнераў зялёнай массы на сянаж, а восенню бралі яшчэ паўнавартасны ўкос канюшыны. На наступны год мелі два ўкосы канюшыны, а затым заворвалі яе пад азімыя. Тут, праўда, была адна "бяда" — не хапала залішніх плошчаў, каб штучна павысіць ураджай збожжавых, за што я і атрымліваў па шапцы.

Асаблівую ўвагу звярталі на выпасы. Лепшыя землі вакол фермаў адводзілі пад культурную пашу. Даказалі на практыцы, што не адна культура так не акупае выдаткі, як добра арганізаваны выпас статку.

Тое ж і з малаком. Ніколі не трымалі лішніх кароў. Надой быў не самы вялікі, але вытворчасць малака дасягала 50% ("лішнія" каровы, якіх трымаюць дзеля штучнага павышэння надою, страшна павялічваюць сабекошт малака), ялавічыны — да 70%. Прынцыпова збывалі любым спосабам хранічна хворых цялят, асабліва цялушак (з іх жа вырастуць кволыя каровы). На першую пару кожны месяц пасля туравага апаросу свінаматак я асабіста з ветсанітарам выбракоўваў слабенькіх парасят: навошта губляць на іх кармы і працоўныя затраты?

Бывалі і ў нас цяжкія гады па нарыхтоўцы кармоў, асабліва калі моцна засушвала (а глебы ў нас лёгкія). Тады збываў лішняе пагалоўе, бо цялушак заўсёды трэба карміць добра — гэта падмурак малочнага статку.

Аднойчы запатрабавалі справаздачу ў вобласці: маўляў, у вас недахоп пагалоўя. Давялося даказваць, што прадукцыю даюць не галовы, а кармы, і калі іх не хапае ў межах 5%, то вытворчасць прадукцыі змяншаецца на 12—15%, а калі не хапае 15%, то страты дасягаюць трэці і болей. Значыць, навошта трымаць лішнія галовы? За гэта "адкрыццё" высокія начальнікі ўвалілі мне тады пад завязку ("лёгкага жыцця шукаеш"), ды, на маё шчасце, на нарадзе быў намеснік міністра сельскай гаспадаркі Фёдар Мірачыцкі, які мяне падтрымаў. (Падкрэслю: гэта быў адзін з нямногіх кіраўнікоў, да якога ў мяне да сённяшняй пары захавалася павага.) А першы сакратар абкама партыі сказаў тады: "Што ты хвалішся прыбыткамі, давай болей прадукцыі, хай сабе і даражэй". Такі падыход лічыўся нормай, усё вымяралі валам. А колькі каштавала такая прадукцыя — нікога не хвалявала. Ну скажыце, якая эканоміка вытрымае, калі ад цябе, кіраўніка гаспадаркі, будуць патрабаваць даць як мага больш прадукцыі, хоць яна і вельмі дарагая, можна сказаць, нерэнтабельная?

Пра ўсё гэта можна было б і не ўзгадваць, але ж у гэтай справе па сённяшні дзень нічога не змянілася. Болей таго, пагоршылася — травы ў многіх гаспадарках, лічы, зніклі. З Мінска крычаць: вобласць павінна даць 1,5—2 мільёны тон збожжа! Вось і заворваюць травы, абы выканаць загад. Тут ужо не да павышэння гумусу ў глебе і не да севазваротаў — абы дажыць да чарговых "Дажынак".

Ну добра, на парадку дня — харчовая бяспека краіны. Так! А навошта ж тады здабытае такой дарагой цаной збожжа скормліваць каровам па 6 і болей кілаграмаў ў дзень? Гэта і дорага, і нават шкодна для жывёлы. І тут я не стаў бы строга судзіць таго ж даглядчыка ці даярку, якія возьмуць, бывае, нейкае вядро мукі з фермы для ўласнай гаспадаркі, бо гэта непараўнальна з той шкодай, якая наносіцца таму ж калгасу ці СПК бяздумным кіраваннем высокага начальства. Маё цвёрдае перакананне: **вытворчасць расце ад прыбытку, а не прыбытак — ад павелічэння пагалоўя.** Дзе гарантыя, што, не маючы магчымасці атрымаць добры прыбытак ад статку, які знаходзіцца ў звычайным кароўніку, ты атрымаеш вялікія грошы, калі звязеш жывёлу ў дарагі комплекс?

Калі няма эфектыўнага гаспадарання ва ўсім, і ў першую чаргу ў выкарыстанні зямельных угоддзяў, дык не выратуе ні комплекс, ні звышсучаснае абсталяванне, закупленае за сотні тысяч долараў. І, сапраўды, пачынаць трэба з зямлі, з разумнага яе выкарыстання. Што ж гэта за гаспадары, у якіх губіцца галоўнае — урадлівасць глебы, аснова жыцця?

Не хацелася б, каб нехта падумаў, што я хвалююся, але скажу: у "Дрыбінскім" мы некалі давялі прыбытак да 2 мільёнаў 700 тысяч рублёў (у той час трактар МТЗ каштаваў 4,5—5 тысяч рублёў). Здавалася б, дабрабыт калгаснікаў павінен быць высокім. Але, як ні дзіўна, яго ўзровень вызначаўся не намі, а вышэйшымі начальнікамі. У той час заробак людзям нельга было істотна павялічваць, бо існаваў ліміт фонду заработнай платы. Купіць будаўнічыя матэрыялы, тэхніку было немагчыма, бо дзейнічала размеркаванне іх фондаў зверху. Пры тым на рахункі Міністэрства сельскай гаспадаркі залічвалася больш за мільён рублёў штогод нашых грошай, напэўна, для тых, хто прытрымліваўся пазіцыі, што няхай сабе прадукцыя будзе і дарагой, але галоўнае, каб яе было як мага больш.

Калі сёння пытаюся ў спецыялістаў тых жа СПК, чаму яны падсяваюць травы пад збожжавыя, а не пад аднагадовыя, чую такі адказ: "Няма плошчаў". Бачыце, пад выгадныя, эфектыўныя для гаспадаркі культуры плошчаў няма, а "пад план" ёсць.

Што тычыцца ўгнаенняў, то, безумоўна, гной вазіць на вялікія адлегласці стратна, дык на тых далёкіх масівах мы, напрыклад, некалі размяшчалі сідэраты. Выключна добрым сідэратам быў лубін селекцыі Таранухі з Горацкай акадэміі. Ён даваў высокі ўраджай як зялёнай масы, так і насення. На жаль, у многіх гаспадарках той жа лубін звялі пад корань. З-за таго, што "няма дзе сеяць".

Апошнім часам, усе чулі, А.Лукашэнка сказаў: баста, грошай няма, зарабляйце самі. Для гэтага павышайце эфектыўнасць вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі. Дзякуй Богу, хоць і праз 20 гадоў, але ўсё ж такі дайшло і да нашага вялікага эканаміста, у чым сэнс гаспадарання на зямлі. Я, праўда, мала веру ў тое, што нешта будзе мяняцца ў лепшы бок. Хоць падыход да выкарыстання зямлі, работы ў жывёлагадоўлі трэба мяняць карэнным чынам. І не на словах, а на справе.

**Мікалай ЮРКОЎ,**
**былы старшыня калгаса "Дрыбінскі" Дрыбінскага раёна.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## *Падказка для ўсіх, хто сёння ў нас псіх*

**Прызыўніка Аляксандра Латышава Жлобінскі ваенкамат накіраваў прайсці абследаванне ў Гомельскім абласным псіхіятрычным шпіталі. Раённы псіхіятр-псіхолаг даў папярэдняе заключэнне, у якім напісана, што "скаргі не выказвае, накіроўваецца ў сувязі з удзелам у партыі "Малады фронт" (раней)". Папярэдні дыягназ, які паставіў раённы псіхіятр, — "расстройства асобы". Пасля абследавання ў абласным псіхіятрычным шпіталі ніякіх адхіленняў урачы ў Аляксандра Латышава не знайшлі.**

*Хтось ганьбіць доктара гатовы,*
*Я ж не зраблю яму папрок,*
*Што ўраз прыйшоў ён да высновы:*
*У юнака "звіхнуўся клёк".*
*У доктара былі падставы*
*Не сумнявацца, думаць так:*
*Няўрымслівы, занадта жвавы,*
*Адметны ад усіх юнак.*
*Што хоча сёння моладзь наша?*
*Яна жадае, не сакрэт,*
*Даброт усякіх — поўнай чашай,*
*Ці грошай — пульхны партманет.*
*А хтось не бачыць іншай мэты,*
*Каб кожны дзень напіцца ў дым*
*І пад кустом заснуць...*
*А гэты*
*Звязаўся з "фронтам Маладым"!*
*Навошта нам "франты" з "байцамі"?*
*Хіба ж мы зараз на вайне?*
*Агрэць бы тых "байцоў" дубцамі,*
*І не па ср...цы — па спіне.*
*Было б паболей з хлопца толку,*
*Не меў бы ўвогуле праблем,*
*Каб ён у іншую суполку*
*Падаўся — у БРСМ,*
*Бо там чальцы адзіным роем*
*"Гудзяць" уладзе ва ўнісон*
*І нават ходзяць ледзь не строем,*
*Як колісь рымскі легіён.*
*І доктар аніяк не хлусіць,*
*Бо гэта ясна і для ўсіх:*
*Той, з "Маладога фронту", мусіць,*
*І сапраўды звычайны псіх.*

* * *

*У нас цяпер усё ў парадку,*
*Краіна наша — рай зямны.*
*А хто не йдзе ў агульным статку,*
*Той без дыягназу дурны.*

## *У чужым манастыры так, як людзі, гавары...*

**Выступаючы ў праграме РТР "Специальный корреспондент", жыхар Данецка так патлумачыў, чаму яму неўспадоб "українскія нацыяналісты": "Мою жену зовут Анной, а меня — Евгением. Они же хотят, чтобы мы назывались какой-то Ганнай и Явгеном". Усе падтрымалі ягонае абурэнне.**

*У студыі парыў адзіны:*
*Ва Украіне — пекла-ад!*
*Дзяцюк тамтэйшы да Радзімы*
*Прэтэнзій мае вельмі шмат.*
*Якая ж страшная правіна*
*Краіны той, дзе ён жыве?*
*— Напрыклад, "мовай" Украіна*
*Нас, рускіх, "б'е па галаве".*
*Я не хачу і не гатовы*
*Па-украінску размаўляць.*
*Мне дастаткова рускай мовы,*
*А на мяне падобных — раць.*
*І называюць нечувана,*
*Калі ты, мовіць так, нацмэн.*
*Напрыклад, жонка Анна — Ганна,*
*Я ж не Евгеній, а Яўген.*
*Ці ж гэта не знявага, людзі,*
*Ці ж гэта нада мной не здзек?*
*Дакуль, скажыце, гэта будзе?*
*Я ваш, я рускі чалавек!*
*Не сплю начамі ад бяссілля,*
*Глытаю крыўду дзень пры дні...*
*Дык ты, вялікая Расія,*
*Такіх, як я, абарані!*
*На вуснах выступоўцаў пена,*
*Гудзела студыя, як рой,*
*І за няшчаснага "Яўгена"*
*Усе гатовы стаць гарой.*
*І спачувалі ўсе пакутам,*
*Хоць у "пакутах" больш ілжы,*
*Бо нельга са сваім статутам*
*Хадзіць у манастыр чужы...*

* * *

*Каб не было і нам пагана,*
*Калі захочам перамен,*
*Бо ў нас таксама Анна — Ганна,*
*І не Евгеній, а Яўген...*

***P.S**. Новую кнігу Алеся Няўвеся "Кукіш у кішэні" можна купіць у мінскай кнігарні "Логвінаў" (пр. Незалежнасці, 37а).*

ТВОРЧАСЦЬ ЧЫТАЧОЎ

*Песню "Белавежская пушча" Аляксандры Пахмутавай і Мікалая Дабранравава ведаюць усе, але ці справядліва, што вершы да яе напісаны на рускай мове? Наш чытач **Леанід Зубараў** вырашыў, што не справядліва, і зрабіў пераклад "музыкальнай візітнай карткі" нашай краіны на беларускую мову.*

## *Белавежская пушча*



*Запаветны напеў, запаведная даль*
*Перад мной паўстаюць,*
*толькі вочы заплюшчу.*
*Ў небе зоркі твае зіхацяць, як крышталь,*
*Белавежская пушча, Белавежская пушча.*

*Тут схаваны даўно скарб*
*спрадвечных дзядоў.*
*На спатканне іду, кліч Радзімы пачуўшы.*
*Шэрай птушкай лясной я з далёкіх краёў*
*Да цябе прылятаю, Белавежская пушча.*

*Верным сынам тваім да крыніцы прыйду,*
*Тут гушчар для зуброў —*
*нібы райскія кушчы.*
*Як алені, з калень п'ю святую ваду,*
*Беларуская казка — Белавежская пушча!*

*Ад высокіх дубоў, мужных велічных дрэў,*
*Дзе дзікі-вепрукі жалуды свае лушчаць,*
*Панясу твой напеў —*
*песняроў шчыры спеў,*
*Белавежская пушча, Белавежская пушча.*

ДИСКУССИЯ

# Дороже денег

*Степан Кудрин в заметке про 14 ведер воды, на мой взгляд, убедительно проиллюстрировал общеизвестную истину: воду надо беречь. С калькулятором в руках я проверил все аргументы С.Кудрина. Потребляя 140 литров воды в день, почти 10 миллионов белорусов за год расходуют 500 миллионов кубометров воды.*

Среднегодовой расход Немана возле Столбцов, согласно энциклопедии "Природа Белоруссии", изданной в 1986 году, составляет 18 кубометров в секунду, или 570 миллионов кубометров за год. Объем воды в озере Нарочь, согласно той же энциклопедии, — 710 миллионов кубометров. Нетрудно представить, что останется от озера, если от него отлить 500 млн кубов. Наконец, в нынешнем столетии я каждое лето хотя бы часть отпуска провожу в Браславе, где каждый знает, что были времена, когда береговая линия озера Дривяты проходила возле улицы, которая теперь называется Ленинской. Поэтому вслед за С.Кудриным повторяю: воду надо беречь!

Оттого удивила меня сердитая статья ветерана труда **Ивана Качура** "*Не занижайте норму на воду*". Совершенно очевидно, что уважаемый ветеран невнимательно читал заметку С.Кудрина.

Во-первых, С.Кудрин пишет о расходе воды в городской квартире и, я уверен, не нарочно не помнит про огород и скотину. На моей памяти, в 1960-х годах были даже в Минске случаи, когда новоселы пытались держать поросят в ванной комнате. Сейчас это нигде и никому и в голову не придет. Помню соседку-пенсионерку, которая еще в конце 1980-х годов со своего балкона щедро из шланга поливала выращенный своими руками цветник возле подъезда. Цветы были очень красивые, вода была очень дешевая. Соседки не стало, вскоре не стало цветов, и скорее всего их больше не будет. Зато есть счетчики воды...

Во-вторых, в 30 строках заметки нет слова "чересчур" в смысле "много". Есть только слова "хіба гэта мала?". Поскольку С.Кудрин не поделился личным опытом расхода воды на домашние нужды, поделюсь личным примером. Не дождавшись капитального ремонта, отремонтировал квартиру по собственной инициативе. Смесители на кухне и в ванной у меня современные, позволяющие поворотом одного рычага и открывать, и регулировать подачу воды в нужное время и в нужном количестве. Считаю, что именно благодаря этому средний расход воды в моей квартире в течение последнего года — 131 литр в день на одного проживающего. Пришлось повозиться со сливным бачком "кераминовского" унитаза. В нем еще новое запорно-регулирующее устройство с самого начала постоянно пропускало тонкую струйку. Выяснил, что за день вытекает до 30 литров воды. Я додумался поместить в бачок на шнурке 1/4 куска хозяйственного мыла в водопроницаемом пакетике. Мыло, постепенно растворяясь, по-видимому, повышает поверхностное натяжение воды, и она перестает просачиваться через клапан запорного устройства. Вот так и у меня получилось, что 140 литров — это не мало.

В-третьих, в городскую квартиру воду ведрами на коромысле никто не носит, на это есть городской водопровод, а он работает по другой технологической схеме, чем колодец, и нужно уж очень постараться, чтобы вода в нем "застоялась" при изменении расхода воды.

В-четвертых, существует только один ограничитель потребления воды из колодца — ее наличие в колодце, и пока никому, и С.Кудрину тоже, не приходило в голову вводить другие ограничения.

В-пятых, никто не ограничивает количество потребляемой воды — нужно лишь ее оплатить и желательно по полной стоимости. Это государство идет навстречу малообеспеченным гражданам и из своего кошелька компенсирует стоимость некоторого количества потребляемой воды. Но деньги в этом кошельке заработаны гражданами Беларуси, других денег там нет. И если этих денег мало или не хватает на воду, государство поднимает цены на другие товары и услуги выше их реальной стоимости. Поэтому при любых нормах за воду мы обязательно заплатим сполна. На сегодняшний день стоимость одного кубометра водопроводной воды в Минске меньше стоимости одной бутылки пива. Я, правда, пива не пью, но и для меня вода дороже денег.

Хочу сказать несколько слов лично Ивану Качуру. Я, как и Вы, Иван, человек городской, но сельскую жизнь представляю достаточно хорошо. Упомянутая Вами Галя с коромыслом, как и многие тысячи таких, как она, ежедневно носят воду ведрами. И не коромысла гнутся на их плечах — коромысла специально изготавливают с прогибом для удобства пользования, — это Галины плечи прогибаются под тяжестью переносимой воды. У Гали и скотина напоена, и огород полит, но сама она для себя в будний день пару раз заливает воду в простенький двухлитровый рукомойник, лишь в субботу (и то не каждую) наслаждаясь баней. Такова у нее жизнь. Я всегда ее вспоминаю, когда вижу горожанку Валю, у которой кран на кухне закрыт лишь тогда, когда Вали на кухне нет. И мне становится грустно. Вот почему я солидарен со Степаном Кудриным.

**Михаил ЗАПОЛЬСКИЙ,**
**инженер.**

ДАЛІКАТНАЯ ТЭМА

# Абраза на нацыянальнай глебе — адна з самых ганебных...

Няма, напэўна, у прэсе больш зашмальцаваных слоў, як "братэрства", "сяброўства", "дружба народаў", "патрыятызм". Праўда, у апошні час на старонках таблоідаў і на экранах тэлевізараў знаходзяць сталую прапіску такія словы: "здраднікі", "фашысты", "бандэраўцы", "бандыты"... У расійскіх газетах і тэлеперадачах — гэта, канечне ж, пра суседзяў-украінцаў, якіх дзесяцігоддзямі за братоў быццам бы вызнавалі і з якімі і надалей, аж да самага скону, быццам бы маюць намер прыязныя і бескарыслівыя браты-расіяне сябраваць.

Брудная лаянка, выдаткі аднабаковай інфармацыйнай вайны без межаў — так, мабыць. Але што засвойваюць пры гэтым дзеці і моладзь, наслухаўшыся падобных "адкрыццяў" у сферы калектыўнай характарыстыкі прадстаўнікоў суседняга народа? Вось 19 сакавіка на працягу ўсяго дня паўтаралася выказванне нейкага юнага жыхара Крыма з нагоды абвяшчэння вынікаў рэферэндуму на паўвыспе: *"Советский Союз, если вернется, — будет прекрасно... Беларусь, Украина, Аляска — мы все братья".* Кантэкст зразумелы.

І зусім не радуе, што мы, беларусы, у тым пераліку імаверных "братоў" — першыя. Значыць, давяраюць нам агрэсары, спадзяюцца, што не схібім падчас — чаго на свеце не здараецца — аналагічнага крымскаму рэферэндуму. Гаранты-прэзідэнты, як бы яны ні супакойвалі на прадмет нашага суверэнітэту, не вечныя, і хто ведае, што там пераемніку сённяшняга гаранта ўзбрыдзе раптам у галаву. Гарантыя ж суверэнітэту — не разавая акцыя, яна будуецца, ладзіцца, і ў першую чаргу, як падказваюць украінскія падзеі, на грунце нацыянальных каштоўнасцяў, а не з ласкі ці волі аднаго чалавека.

На пасаж кшталту выдадзенага маладым крымчанінам персанаж рамана Франсіска Умбраля "Авіньёнскія паненкі" ненавязліва, бы між іншым, але разам з тым цвёрда адказваў: "Ідзі ты к чорту, хлопчык". Ды прабачым дзіцяці геаграфічную аблуду наконт Аляскі: што чуў хлапчына ад старэйшых, тое і агучыў. Тым больш што ў нашым краі аднадумцаў яго — гаць гаці. Гэта толькі здаецца, што вытрыманасць ды інертнасць пануюць паўсюль у стаўленні да ўкраінскіх падзей. Зацішша — рэч падманлівая. Дай толькі зялёнае святло нашым дзяржаўным СМІ, дык такое пачуеш на адрас тых жа братоў-украінцаў, што вушы звянуць.

Братэрства, як і паважлівае стаўленне да суверэнітэту, як і ўсё іншае, патрабуе высокай культуры, і не на словах, а на справе. А пра якую культуру ў нас можна казаць, калі часам у абласных ці раённых гарадах ніводзін з вышэйшых кіраўнікоў, у тым ліку і ў сферы культуры, не кажучы ўжо пра функцыянераў вытворчасці, мовай тытульнай нацыі адвеку не карыстаецца і карыстацца не збіраецца? А русіфікацыя ўстаноў адукацыі, а пераследы навукоўцаў і нацыянальна скіраваных выкладчыкаў ВНУ, меркаванні якіх наконт гісторыі ўласнай краіны ці інтэрпрэтацыі падыходаў да той жа тэмы дружбы народаў з афіцыйнымі не супадаюць?

У мінулым годзе ў Віцебску пабачыла свет рэкамендаваная да друку старшынёй аддзялення праўладнай пісьменніцкай суполкі кніжка ўспамінаў аднаго мясцовага мастака, у якой сярод іншага згадваецца эпізод з жыцця вядомага ў Беларусі скульптара, імя якога з этычных меркаванняў згадваць не будзем. Ён датычыць абставін гвалтоўнай жаніцьбы персанажа з дзяўчынай-яўрэйкай і нагадвае аналагічны эпізод (у сэнсе фабулы, без адцення нацыянальнага) з выдатнага твора Ніла Гілевіча "Родныя дзеці". Маўляў, завабілі "доверчивого русского парня" на нейкае свята, абпаілі снатворным, паклалі спаць непрытомнага. Уранні прачнуўся бядак — а тут побач на ложку дачка гаспадыніна. Хацеў збегчы, ды дзе там, сталі пагражаць: зараз жа не ажэнішся — заб'ём!

"Он очнулся только к утру. Притом очнулся не сам, а от диких криков над своей головой... Он перепугался и хотел бежать, но не тут-то было... Над головой склонилось несколько озлобленных лиц. В руках у них были вилы, ножи и еще какие-то предметы... Как его уложили в чужую постель и как рядом с ним оказалась эта дохлая еврейка, он не понимал, так как был отключен".

Вось такая бывае прапаганда "сяброўства" і дружбы народаў з выкарыстаннем усіх магчымых і даступных сродкаў мастацка-літаратурнага асэнсавання рэчаіснасці. У любым выпадку выхаваўчы эфект — страшна адмоўны.

Абраза на нацыянальнай глебе — адна з самых ганебных, якога б народа яна ні тычылася.

**Франц СІЎКО,**
**сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

***У мінулым годзе аб'ём вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі ў параўнанні з папярэднім скараціўся на 3,4 працэнта. Колькасць стратных гаспадарак без дзяржпадтрымкі ўзрасла ў 1,8 раза і перасягнула лічбу 900. Сумарныя іх страты павялічыліся ў 3,8 раза.***

СУБ'ЕКТЫЎНЫ ПОГЛЯД

## Аддзячылі...

*Сумна, але рабіць кар'еру ў сённяшняй Беларусі дапамагаюць сумніўныя з маральнага пункту гледжання гісторыі.*

У мінулым годзе "Народная Воля" расказвала, як у Слонімскай раённай бальніцы развіталіся з вопытным доктарам-траўматолагам, кіраўніком мясцовай суполкі Партыі БНФ **Іванам Шэгам.** Нягледзячы на недахоп медыцынскіх кадраў, нягледзячы на малую колькасць вопытных урачоў, нягледзячы на лісты-просьбы-патрабаванні простых людзей і пацыентаў, Івану Шэгу не працягнулі кантракт. І вось зараз галоўны ўрач Слонімскай бальніцы **Юрый Пяцельскі,** які "правёў аперацыю" па "нейтралізацыі бээнэфаўца з медыцынскай сістэмы", атрымаў своеасаблівую падзяку за добрую работу. І ў Гродне, і ва ўсёй Гродзенскай вобласці не знайшлося больш вопытнага і аўтарытэтнага спецыяліста для таго, каб прызначыць яго на пасаду галоўнага ўрача Гродзенскай абласной клінічнай бальніцы. На гэтую пасаду прызначаны слонімец Пяцельскі.

Іван Шэга, які ўсё жыццё адпрацаваў доктарам-траўматолагам, так пракаментаваў сітуацыю: *"Медперсанал гадоў пяць чакаў, калі Пяцельскі пакіне Слонімскую бальніцу. І, нарэшце, у Слоніме наступіла свята. Я гэта кажу не таму, што ён летась не працягнуў са мной кантракт і фактычна звольніў мяне з работы, бо лічу, што яго тут мала віны, а на яго націснулі зверху, хоць ён мог і павінен быў бараніць сваіх работнікаў. Але Пяцельскі вельмі цяжкі чалавек з прыгнечаным характарам, які заўсёды быў нечым незадаволены. І гэтая незадаволенасць адмоўна адлюстроўвалася на ўсім калектыве медработнікаў бальніцы. З ім было цяжка працаваць, таму са Слонімскай бальніцы звольніліся і пераехалі ў іншыя медыцынскія ўстановы дзясяткі вопытных дактароў".*

Што ж, калі Пяцельскі не зменіцца, то цяпер будзе цяжка працаваць усім медыкам Гродзенскай вобласці.

ЭКАНОМІКА

## На склад!

За студзень-люты складскія запасы выраслі на 5,9 трыльёна рублёў, ябо на 21%, і на 1 сакавіка дасягнулі 33,9 трыльёна рублёў. Такім чынам, нягледзячы на нарады, разносы і пагрозы, вырашыць праблему забітых складоў не ўдаецца. Эканамісты кажуць, што ў такой сітуацыі трэба проста спыняць працу некаторых заводаў.

## Гуляем ці працуем?

З усіх рэгіёнаў Беларусі прыходзяць весткі пра перавод работнікаў прамысловых прадпрыемстваў на чатырохдзённы працоўны тыдзень. Такая інфармацыя паступіла з Мінскага аўтамабільнага завода і "Гарызонта", з "Брэсцкага піва", Аршанскага мясакансерваваго камбіната. У сакавіку перайшоў на чатырохдзённы працоўны тыдзень і Барысаўскі завод аўтатрактарнага абсталявання. На заводзе БАТЭ афіцыйна пачалася "аптымізацыя" колькасці працуючых.

На барысаўскім заводзе "Экран" працаваць чатыры дні на тыдзень сталі яшчэ ў лютым...

НУ І НУ!

## Эканомія на... здароўі

Чыноўнікі Упраўлення аховы здароўя Мінскай вобласці падвялі вынікі работы галіны ў 2013 годзе. Аказалася, што на выдатках на медыцыну вобласць сэканоміла. Паводле нарматываў, у мінулым годзе ахова здароўя Міншчыны павінна была атрымаць фінансаванне зыходзячы з выдаткаў 1990,0 тысячы рублёў на аднаго жыхара, а расходавала 1874,4 тысячы. Пры гэтым у вобласці не хапае ўрачоў, медсясцёр, у некаторых раённых бальніцах не хапае ложка-месцаў, а гэта значыць, што нярэдка хворых пры шпіталізацыі прыходзіцца размяшчаць у калідорах. Наўрад ці памылюся, калі скажу, што кожны галоўны ўрач вобласці знайшоў бы, як асвоіць вылучаныя на ЦРБ грошы. Але мясцовыя чыноўнікі ад медыцыны далі справаздачу пра эканомію.

Калі знаёмішся з вынікамі работы сістэмы аховы здароўя Міншчыны, звяртаеш увагу на паказчык смяротнасці сярод працаздольнага насельніцтва. У градзе гэта — 4,3 выпадку на 1 тысячу насельніцтва (з улікам алкагольных атручэнняў, псіхозаў, хвароб печані), а ў вёсках гэты ўзровень вышэй у 1,5 раза — 6,9 выпадку на 1 тысячу насельніцтва. Медыкі падкрэсліваюць, што нярэдка прычына смерці — не хваробы, вялікую ролю ў павелічэнні смяротнасці адыгрывае алкагалізацыя насельніцтва.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ЦЭНЫ

## Хутка будзем толькі ўспамінаць

У Беларусі зноў падаражэла мяса. Адпускныя цэны на мяса павышаны на 5 працэнтаў.

Адпаведнае рашэнне зацверджана Міністэрствам эканомікі.

Згодна з дакументам, максімальная адпускная цана на ялавічыну складзе 33 тысячы 279 рублёў за кілаграм. На свініну першай і другой катэгорыі — 31 тысячу 920 рублёў, свініну трэцяй катэгорыі — 29 тысяч 814 рублёў за кілаграм. Праўда, і па такіх цэнах менавіта мяса (не сала і не косткі) знайсці вельмі праблематычна, але гэта ўжо іншая гісторыя.

УВАГА!

## Махляры і «Калыханка»

Невядомыя асобы спрабуюць зарабіць на дзіцячай праграме, якая выходзіць на тэлеканале "Беларусь 3". Як паведамляе БЕЛТА, махляры, выкарыстоўваючы папулярны брэнд "Калыханкі", займаюцца незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасцю. Яны прапаноўваюць за грошы здымаць дзяцей у праграме. Пры гэтым Белтэлерадыёкампанія заявіла, што яна не мае ніякага дачынення да гэтай дзейнасці, і прапануе ахвярам махляроў звяртацца ў праваахоўныя органы.

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## Жаніхі на экспарт

Аказваецца, Беларусь — гэта не толькі край нявест для замежных халасцякоў, але і край жаніхоў.

Як сведчаць апошнія звесткі Дэпартамента статыстыкі, грамадзянкі Літвы сталі часцей аддаваць руку і сэрца замежнікам.

Жыхары Германіі па-ранейшаму лідзіруюць у топе самых зайздросных жаніхоў. На другім месцы па папулярнасці сярод жанчын Літвы — расіяне. Але і беларускія жаніхі не разгубіліся. Як сведчыць статыстыка, нашы хлопцы па ўменні знайсці падыход да сэрца літовак абагналі нават палякаў і ўкраінцаў.

БЕСПРЕДЕЛ!

# Цирк, да и только!

## *Почему за воровство и разгильдяйство застройщика должны платить дольщики?*

**История строительства в Минске дома по Логойскому тракту, 21А тянется с 2008 года. Сроки его ввода в эксплуатацию переносились 11 (!) раз. В прошлом году дольщики многострадального долгостроя дважды обращались в "Народную Волю", и это возымело эффект — дом наконец-то достроили, хоть и с множеством недоделок. В конце 2013 года его сдали в эксплуатацию. Но какой ценой!**



**Не нашли дольщики общего языка с чиновниками.**

На стройке "вдруг" обнаружилась крупная недостача (хотя дольщики сигнализировали об этом во все инстанции еще с 2010 года!). Согласно данным проверки Комитета государственного контроля, проведенной во второй половине минувшего года, застройщиком разбазарено на недобросовестных и якобы случайно подвернувшихся генподрядчиков 4,5 млрд рублей. А это четверть всех денежных средств, необходимых для возведения дома!

И что это были за генподрядчики? Первым стала компания "Облик", печально знаменитая своими долгостроями в Бресте. Хоть "Облик" и завалил все сроки начала строительства нашего дома, но себя не обидел: часть денежных средств минских дольщиков осела на его счетах. Вторым генподрядчиком была выбрана никому не известная компания "Лайрон", на тот момент недавно зарегистрированная иностранцами. Они, не построив ни одного этажа, умудрились увести со стройки 1,5 млрд рублей. Точно такую же сумму эта компания похитила при строительстве и соседнего дома, где застройщиком также выступал УКС Советского района. В результате кругленькая сумма в 1 млн долларов была уведена за границу.

Третьим проблемным генподрядчиком оказалась организация, принадлежащая самому УКС Советского района, которая была фактически банкротом на момент заключения с ней договора. На этом СУ-2008 "повисли" 2,8 млрд рублей неотработанных авансов. И какие меры предпринял застройщик, чтобы взыскать задолженность? Да никаких. Он просто ликвидировал свое дочернее предприятие. Нет организации — нет проблемы.

Какой же вывод сделало из всего этого руководство Комитета государственного контроля и Министерства архитектуры и строительства? Наказать виновных? Возбудить уголовные и административные дела? Взыскать с виновных недостающие средства? Как бы не так! Ничего подобного!

Вывод простой: возместить эти деньги должны... сами дольщики! Эту мысль изначально пестовало руководство УКС Советского района, разъясняя дольщикам, что они не дольщики, а якобы... соинвесторы! А раз соинвесторы, то должны компенсировать все издержки при строительстве. В том числе и те, что похитили при возведении дома приглашенные УКС генподрядчики. Ведь УКС такой неопытный! Его обмануть может каждый...

Но поистине эпический масштаб эта идея приобрела в устах некоторых руководителей КГК, которые выступали и в СМИ, и на встречах с дольщиками. Они разъясняли, что дольщики виноваты в том, что не платили в тот период, когда стройка простаивала месяцами и годами, а значит, теперь за все должны заплатить сполна. И для представителей Госконтроля не важно, что денег от дольщиков нашего дома всегда поступало на счет УКС больше, чем осваивалось, что неосвоенные деньги УКС пускал на другие объекты (это уже доказано проверками, в том числе и самого КГК), что запрещено законом.

Для представителей Комитета государственного контроля также не важно, что большинство дольщиков финансировало строительство за счет льготных кредитов. А банк, являясь гарантом платежей, не перечислял льготные кредиты (согласно законодательству!), поскольку не было прироста процента готовности. Стройка стоит — деньги не идут. Стройка возобновляется — средства поступают, согласно проценту готовности плюс аванс. Все логично и законно.

Но не для некоторых руководителей КГК. Их вердикт однозначен — виноваты и все тут. Виноваты даже те дольщики, которые получили письменные разрешения от УКС приостановить оплаты по причине простоя и бессмысленности внесения денег— стройка иной раз простаивала годами. Даже те дольщики (нашлись и такие), которые платили, несмотря на простои, из месяца в месяц, строго следуя букве и цифре договора, все равно оказались виноваты перед УКС. Все — согласно той же логике КГК.

Представители КГК неумолимы: за воровство и разгильдяйство застройщика должны заплатить дольщики — и сполна! Мы будто попали на счетчик мафиозного клана, а не заключили договор долевого строительства с представителем органа власти (застройщик, УКС Советского района, образован администрацией Советского района Минска). И, похоже, никакие аргументы не способны поколебать чиновников.

Правда, суды пока еще стоят на страже законности и не позволяют безнаказанно вершить беспредел. В 2013 году в пользу дольщиков завершился почти десяток дел, затеянных УКСом в целях получения незаконных доплат.

Но теперь в ход пущено новое средство — искажение закона. Если в законодательстве о долевом строительстве или при исчислении его стоимости некое положение защищает дольщиков, то чиновникам ничего не стоит перетолковать это в иную сторону.

Так, Министерство архитектуры и строительства 11 января 2014 года услужливо "преподнесло" застройщикам рекомендации (они направлены в Мингорисполком и облисполкомы), по которым с дольщиков можно все-таки брать деньги — вопреки законодательству, существующим методикам исчисления цены в строительстве и договорам с дольщиками: "в случае, где договоры долевого строительства заключены до вступления в силу указа №263, Минстройархитектуры рекомендует применять положение №1006" (положение №1006 принято 22.11.2013 г. Совмином РБ). Но в п. 3 этого постановления черным по белому написано, что **"действие настоящего постановления не распространяется на договоры создания объектов долевого строительства, заключенные до вступления в силу Указа Президента Республики Беларусь от 6 июня 2013 г. №263 "О долевом строительстве объектов в Республике Беларусь".** А как раз до этого срока были заключены все наши договоры. Они не подпадают под действие нового Указа.

Однако кого из строительной, прямо скажем, мафии интересуют подобные детали? Чинуши в эти законы и не заглядывают, они привыкли, что будет так, как они скажут, и что дольщики под угрозой расторжения и судов будут послушно нести свои сбережения, чтобы хоть как-то вырвать свои оплаченные квартиры и избежать многолетних судебных тяжб.

Да вот беда, не уважает у нас строительная братва ни президента, ни его указы, ни законы, ни тем более какие-то там договоры с дольщиками. После проверки КГК и на основании рекомендаций Министерства архитектуры и строительства на свет появились новые допсоглашения с дольщиками, где на десятки миллионов рублей увеличивается стоимость строительства квадратного метра и сильно возрастает прибыль застройщика. И это при том, что аналогичные доплаты на многие десятки миллионов рублей выставлялись дольщикам и в 2012-м, и в 2013 году.

Для недовольных и несогласных припасена новая уловка. Теперь чиновники заявляют, что раз дольщики вступили в долевое строительство после истечения нормативного срока, то все их договоры заранее недействительны. Мол, законом такое не предусмотрено. То есть на протяжении трех лет с дольщиков брали деньги, направляли в банк, подписывали с ними допсоглашения, тягали по судам, давали письменные разъяснения, а теперь вдруг выяснили: все это вне правового поля. При этом заранее уже объявлено, что недействительными будут признаны договоры только тех дольщиков, которые откажутся доплачивать.

— Но позвольте, — возмущаются дольщики, — столько лет и суды, и власти (и города, и республики) нам заявляли, что главным законом для долевого строительства является Указ Президента №396. Что этот указ регулирует всю деятельность в РБ по долевому строительству. Теперь же что получается — что он чего-то там все-таки не урегулировал? И мы три года вели долевое строительство с госорганизацией, ввалили кучу денег — и своих, и государственных (в виде льготных кредитов), а теперь, оказывается, это было вовсе не долевое строительство?! Или какое-то незаконное долевое строительство? А как же банк, который выделял нам льготные кредиты?.. А как же наши договоры, где написано, что они составлены в соответствии с законодательством РБ и Указом Президента №396?

— Ошибочка вышла, — сухо заявляют представители Комитета госконтроля, — что-то там юристка в УКСе напутала... Мы ей выговор объявим. А ваши готовые квартирки будут проданы по рыночным ценам. Ведь только так можно компенсировать затраты УКС...

Нам хорошо известно, что работники УКС Советского района в период разбазаривания денег со стройки (например, в 2011 г.) чуть ли не ежемесячно получали материальную помощь и премии, эквивалентные 1000 долларам и более, строили квартиры и себе, и родственникам за бесценок (по 300 долларов за квадратный метр) в соседнем с нами доме (по ул.Широкой, 3). А чего стесняться — за все заплатят дольщики!

Причем и КГК, и ОБЭП, и прокуратура прекрасно осведомлены как об этих фактах, так и о фактах хищений и нарушений в УКС Советского района. Но все тщетно. Контролирующие органы не заинтересовал даже тот факт, что на счет УКС с июля 2009-го по январь 2010 года было перечислено 4,5 млрд рублей из бюджета на строительство государственных квартир для граждан, чьи дома подлежат сносу. Но ни одной квартиры в доме по ул. Широкой, 3 (как и в нашем доме, который также должен был передать городу квартиры) не передано государству — все квартиры давно проданы. Стоит ли говорить, что для "особенных" людей там и особенная стоимость квартир — очень низкая. Но на возмущенные запросы дольщиков пришли невозмутимые ответы, что при проверке указанных фактов работники УКС, вызванные в милицию, ни в чем не сознались, поэтому против них нет возможности возбудить уголовные дела.

Цирк, да и только!

Мы, конечно же, понимаем, что этот цирк создан намеренно, что он выгоден застройщикам и покрывающим их чиновникам. Им выгодно затягивать сроки строительства, поскольку из-за этого происходит удорожание стройки и, следовательно, увеличивается прибыль застройщика. Заодно в таком долгострое можно за бесценок оформить на себя или на родственников квартирки, продав их затем с хорошим наваром. А уж заключение контрактов с подставными подрядчиками или по завышенным ценам так вообще — песня! При этом за затягивание сроков, за разбазаривание средств и завышение стоимости застройщик не несет ни перед кем никакой ответственности: ни по закону (там только символическая ответственность), ни на деле (этого не позволят доказать чиновники со своими "разъяснениями").

Ну чем не бизнес-модель? Только и успевай стричь купоны. Одни лишь дольщики с Логойского тракта, 21А под ногами путаются, какими-то указами и законами размахивают. Законности, видишь ли, требуют! Да слыханное ли это дело — в долевом-то строительстве?! Не удивительно, что все городское и строительное чиновничество на нас ополчилось. Мы — прямая угроза весьма доходному бизнесу. Можно даже сказать — правовая опасность.

**Наталья КУРИЛЕНКО,
Людмила СОРОКИНА,
Дмитрий МАСАЛЬСКИЙ,
Надежда БОРОВИК,
Ольга САХУТО,
Людмила ОЛЕЙНИК,
Владимир ДАШКО,
Ольга КОТОВА,
Мария БРЕХОВА.**

ПАЛІТЫЧНЫ РАКУРС

# Губернатараў і мэраў у нас няма, але яны павінны быць



Дзяржаўныя СМІ называюць старшынь аблвыканкамаў губернатарамі, а старшынь гарвыканкамаў — мэрамі. Ці правільна гэта?

З такім пытаннем я звярнулася да **Святланы ГАЛЬДАДЗЕ,** якая з 1991-га па 1996 год узначальвала Гомельскі гарадскі Савет дэпутатаў.

— Адназначна нельга называць іх губернатарамі і мэрамі. Таму што выканкамы ў нашай краіне — гэта органы дзяржаўнай улады, а не самакіравання. А мэр — гэта старшыня або кіраўнік органа мясцовага самакіравання. Што тычыцца губернатараў, то ўжыванне гэтага тэрміна магчыма з беларускім "акцэнтам" або пэўным разуменнем. Большасць з нас ведае, як адбываюцца выбары ў нашай краіне. Свабоднымі і празрыстымі іх назваць нельга. За час існавання ў краіне "вертыкалі" не было ніводнага выпадку, калі б дэпутаты адпаведнага Савета не падтрымалі прапанаваную кандыдатуру на пасаду старшыні аблвыканкама. Іх галоўны абавязак — у першую чаргу выконваць волю вышэйшых дзяржаўных структур. Зацвярджэнне старшынь выканкамаў дэпутатамі мясцовых Саветаў мае чыста фармальны характар. Асабліва калі ўлічваць, што выбары ў Саветы ў нас адбываюцца, пад дыктоўку тых жа выканаўчых органаў.

У краінах цывілізаванага свету кіраўнікі гарадоў выбіраюцца або ўсеагульным галасаваннем, або дэпутатамі. Кампетэнцыя іх вызначана законам.

**— Падчас пратэстаў жыхароў, скажам, супраць ушчыльнення забудовы мікрараёнаў ці знішчэння зялёных зон даволі часта гучаць папрокі ў бок старшынь тых жа выканкамаў. Людзі спадзяюцца, што ад іх пазіцыі нешта залежыць, а таму, бывае, нават збіраюць подпісы, каб таго ці іншага чыноўніка знялі з пасады. Скажыце, калі ласка, рэальна гэта ці не?**

— Не яны выбіралі — не ім і здымаць. Вы што, не чулі такіх адказаў? Кіраўнікі "вертыкалі" не падкантрольныя грамадзянам, паколькі яны былі прызначаны зверху. Мы нават па тэлебачанні часта бачым і чуем, як падаецца інфармацыя пра кадравыя прызначэнні: "Аляксандр Лукашэнка прызначыў на пасаду старшыні выканкама..." Такімі вось афіцыйнымі паведамленнямі дзяржпрапагандысты фактычна адкрыта пацвярджаюць фармальнасць працэдуры выбараў старшынь абл- і гарвыканкамаў.

У нашай краіне не адбылося галоўнага — дэцэнтралізацыі ўлады, з тым каб кожны ўзровень займаўся сваёй сферай дзейнасці і нёс адпаведную адказнасць. У многіх краінах цэнтральная ўлада, як правіла, адказвае за пытанні нацыянальнай важнасці — за абарону, за стасункі з іншымі дзяржавамі, за палітыку ў галіне аховы навакольнага асяроддзя і гэтак далей. Лагічна, што будаўніцтвам тых жа школ, бальніц у рэгіёнах павінны займацца мясцовыя органы самакіравання, бо менавіта яны лепш ведаюць, на якім месцы павінна быць узведзена, напрыклад, школа. Толькі яны могуць талкова вырашаць, якое абсталяванне неабходна закупіць для таго ці іншага шпіталя. У Гомелі, каб прайсці тамаграфію, трэба стаяць у чарзе амаль год. Мы дайшлі да таго, што віцэ-прэм'ер Тозік уносіць прапанову зрабіць платным ультрагукавое даследаванне!

**— Праблема з-за таго, што мясцовых кіраўнікоў народ не выбірае і яны не надзелены пэўнымі паўнамоцтвамі?**

— Не толькі. Па-першае, патрэбна дэцэнтралізацыя ўлады, перадача паўнамоцтваў і абавязкаў на мясцовы ўзровень. Трэба даць магчымасць людзям выбіраць тых, хто будзе здольны вызначаць першачарговыя задачы і разумна размяркоўваць рэсурсы. І самае галоўнае — будзе падкантрольны жыхарам адпаведнай тэрыторыі. Калі мясцовы бюджэт будзе зацвярджацца з улікам патрэб жыхароў тэрыторыі, з іх удзелам у яго абмеркаванні, то і людзі будуць да гэтага інакш ставіцца. Ну, самы просты прыклад: што ў першую чаргу неабходна пабудаваць — лядовыя палацы ці басейны ў школах? Грошы на такія будоўлі і ўтрыманне патрэбны вялікія. Мяняць кожны год плітку на адных і тых жа вуліцах ці адзін раз зрабіць гэта якасна, з захаваннем усіх тэхналагічных нормаў і ўжываннем добрых матэрыялаў і не думаць, што праз пяць-шэсць месяцаў з'явяцца ямы.

Што такое мясцовае самакіраванне? Гэта паслуга, якую аказваюць насельніцтву выбраныя людзі, якія бяруць на сябе адказнасць за вырашэнне ўсіх пытанняў мясцовага характару *у межах вызначанай кампетэнцыі.*

**— Разбурыць "вертыкаль" не так проста...**

— Калі пагадзіцца на выбарнасць кіраўнікоў выканкамаў, "вертыкаль" страціць сваю ўстойлівасць. Патрэбна рэфармаванне сістэмы на мясцовым і рэгіянальным узроўні. Наша краіна павінна далучыцца да Еўрапейскай хартыі мясцовага самакіравання. І мяне хвалюе тое, што ў грамадстве расце апатыя, што яно змірылася з гэтым, многія людзі проста не вераць, што ў нашай краіне можна нешта змяніць.

**Любоў ЛУНЁВА.**

